№4 (13)
2000г.
красакавік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

**Сёння і заўсёды ў нумары:**

*Толькі арыгінальныя матэрыялы, якія напісаны спецыяльна для газеты «Гоман Барысаўшчыны».*

*Невядомая і малавядомая інфармацыя аб нашым краі і яго людзях.*

*Нагадваем, што на газету «Гоман Барысаўшчыны» можна падпісацца. Падпісны індэкс выдання **64184**. Кошт індывідуальнай падпіскі:*
*на **1 месяц - 90** тыс. руб.*
*на **2 месяцы - 180** тыс. руб.*

## Барысаў - горад развадных мастоў

*(Пра гісторыю мастоў у нашым горадзе чытайце на стар. 4 )*



# Ратуйце генафонд!

Беларусь, на вялікі жаль, з'яўляецца адной з самых п'ючых дзяржаў Еўропы. Не адбілася на спажыванні лікёра-гарэлачных вырабаў падзенне ўзроўню жыцця. У параўнанні з 1991 годам іх спажыванне павялічылася ў 1,5 разы.

Рэдакцыя ГБ правяла ананімнае апытанне сярод вучняў 7 -11 класаў. У ім прыняло ўдзел 1243 вучні (з іх 597 юнакоў і 646 дзяўчат) з 12 школ горада. Гэта прыкладна 13% ад усіх школьнікаў старэйшых класаў. Апытана вучняў 11-х класаў - 244 чалавекі (106 юнакоў, 138 дзяўчат), 10-х класаў - 296 чалавек (137 юнакоў, 159 дзяўчат), 9-х класаў - 340 чалавек (160юнакоў, 180 дзяўчат), 8-х класаў - 280 чалавек (154 юнакоў,126 дзяўчат), 7-х класаў - 83 чалавекі (40юнакоў, 43 дзяўчат).

**Колькасць старшакласнікаў, якія кураць**




Як бачна, з 7-га класа колькасць тых, хто курыць, увесь час узрастае. Дадзеныя за 11 клас трошку меней, але гэта можа быць растлумачана хібнасцю апросу. Магчыма таксама, што вучні 11-х класаў былі падчас анкетавання не зусім шчырымі.

Не лепей выглядаюць вынікі апытання, якія датычацца колькасці тых, хто рэгулярна ўжывае спіртныя напоі (без уліку піва). У чым прычына? Як змяніць падобнае становішча? Бессэнсоўна казаць падлетку: Не пі, а то станеш алкаголікам, альбо не пі, бо гэта дрэнна. Ці нешта іншае ў тым жа духу. Ніякага выніку гэта не дасць. А тым часам у аддзелах Віно-Гарэлка ў адрозненне ад шмат якіх іншых аддзелаў крамаў заўсёды полкі «ломяцца» ад разнастайных тавараў. Выбар - ад напою пралетарыяў «Крыжачок» да гарэлкі «Усяслаў Чарадзей». Нягледзячы на шыльдачкі «Продаж спіртных і табачных вырабаў асобам да 18 гадоў забаронены», хлапчукі і дзяўчынкі без асаблівых праблем знаходзяць мноства шляхоў «затарыцца» чарнілам альбо гарэлкай.

Старэйшыя школьнікі - гэта будучыня грамадства. Што нас чакае? Калі не прадпрыняць тэрміновых мер, то дэградацыя і самавынішчэнне генафонда можа стаць рэальнасцю.

***М.Лазар***

**Колькасць старшакласнікаў, што п`юць**




***Ад рэдакцыі:*** *Працяг тэмы - звесткі з Інспекцыі па справах непаўнагадовых чытайце на старонцы 3.*

# Быць лепшаму быту?!

Бясспрэчна, што вельмі важнай задачай з'яўляецца ўладкаванне быту як гарадскога, так і вясковага жыхара. І ў гэтым напрамку маюць адбыцца некаторыя зрухі. Напрыклад, фірма «Барысаўбытсервіс» ажыццяўляе ў цяперашні час праект стварэння рознагаліновай даведачна-інфармацыйнай службы сферы быту.

Ужо сёння, пазваніўшы па тэлефоне службы быту 3-31-09, кліент можа атрымаць даведку аб усіх аказваемых паслугах у горадзе і раёне, атрымаць адрасы ўстаноў быту, даведацца аб кошце паслуг. А ў хуткім часе даведачная служба будзе аснашчана камп'ютэрам, з дапамогай якога справа павінна падняцца на якасна новы ўзровень.

Банк дадзеных, закладзены ў камп'ютэры, дазволіць выдаваць даведкі аб рабоце чыгуначнага транспарту, паслугах, якія аказваюцца прыватнымі фірмамі бытавога профілю, прапановах па рамонту і прыбіранню кватэр, а таксама аб многім іншым. Акрамя таго, што даведкі будуць выдавацца бясплатна, у планах даведачнай службы яшчэ і прыём заказаў. Напрыклад, кліент зможа набыць тут білеты на транспарт або з дапамогай камп'ютэра змадэліраваць прычоску.

***А.Турко***

# Магчыма, узыходзіць зорка

Дыплом другой ступені прывезла з Міжнароднага конкурсу імя Баха дзесяцігадовая навучэнка Барысаўскай дзіцячай музычнай школы Таня Малярэвіч. Гэта таксама вялікі поспех педагога юнай піяністкі Т.А.Конаравай.

Паспяхова прайшоў дэбют узыходзячай зоркі ў якасці дыпламанткі прэстыжнага конкурсу і перад мясцовай музычнай грамадскасцю, а таксама аматарамі класічнай музыкі, які прайшоў нядаўна ў актавай зале музычнай школы. Таня іграла адзін з канцэртаў Моцарта ў суправаджэнні аркестра. А гэта ўжо сведчанне прызнання не толькі высокіх здольнасцей юнай піяністкі, але і сапраўднага прафесіяналізму. І каб шліфаваць яго грані да найвышэйшага ўзроўню майстэрства, дзяўчынка мае намер паступаць у спецыяльны ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі.

***А.Турко***

# Барысаў абуджаецца

У горадзе з'явіўся сапраўдны гаспадар. Гэта нельга не адзначыць. За апошнія «перабудовачныя» гады ўпершыню наш веснавы Барысаў выглядае такім чыстым і таму ўтульным. Старанна прыбіраюцца вуліцы і двары, вывозяцца сметнікі. Дрэнна выглядае толькі прыватны сектар. Ёсць нават такія, хто выкідвае смецце сабе пад нос. Спадзяемся, што да такіх неахайнікаў будуць прымацца самыя жорсткія меры. Яны не толькі засмечваюць навакольнае асяроддзе, яны кідаюць выклік усім гараджанам.

Пажадана ў абавязковым парадку пачаць збіраць плату за вываз смецця, паставіць смеццязборнікі і значна павялічыць штрафы. Трэба ў гэтым пытанні прымяніць уладу, і наш горад будзе выглядаць не горш за любы еўрапейскі горад.

***І.Сямёнава***

# МАЙСТЭРСТВА

Гарадское швейна-трыкатажнае прадпрыемства «Барысаўчанка» добра вядома барысаўцам. Многія з нас з задавальненнем карыстаюцца практычнымі трыкатажнымі вырабамі, зробленымі на гэтым прадпрыемстве.

Зараз перад калектывам «Барысаўчанкі» адчыняюцца вялікія перспектывы. У гэтым упэўнена загадчыца трыкатажным атэлье Рэгіна Іванаўна Сусікава. Свае надзеі яна звязвае з калектывам, у якім яна зараз працуе. У першую чаргу мы пачулі добрыя словы ў адрас тэхнолага Ганчаровай Тамары Іванаўны. Таленавіты майстар дасканала ведае тэхналогію трыкатажнай вытворчасці. Тамара Іванаўна мае працоўны стаж больш за 20 гадоў. Сваім вопытам, талентам яна ўмацоўвае прадпрыемства, з'яўляецца настаўніцай для маладых дзяўчат і робіць гэта з задавальненнем.

У цеснай сувязі з Т.І.Ганчаровай працуе таленавіты мастак-мадэльер Сушкевіч Наталля Іванаўна. Мадэлі адзення, распрацаваныя мастачкай можна назваць эталонамі высокай моды. Яна добра разбіраецца ў колеры і структуры пражы, своечасова рэагуе на новыя напрамкі, патрабаванні.

Час ад часу ўзнікаючыя праблемы з сыравінай і невялікія заробкі работнікаў прадпрыемства крыху засмучаюць настрой, але любоў да сваёй справы і вялікае майстэрства надаюць надзею на лепшыя перспектывы, тым больш што з боку адміністрацыі заўсёды знаходзіцца падтрымка. Ня гледзячы на цяжкасці, захоўваецца калектыў і настаўніцтва. Многія работнікі працуюць ужо больш за 30 гадоў. Ёсць чаму павучыцца таленавітай моладзі, якая паспяхова пачынае свой працоўны шлях.

Каб пабачыць сваімі вачыма вынікі працы творчага калектыву дастаткова наведаць трэці паверх Дома быту. Менавіта тут працуе і творыць таленавіты калектыў. Дарэчы, разам з паўшарсцянымі вырабамі зараз вялікая ўвага надаецца вырабам са льна. Гэта вельмі перспектыўна, што добра тут разумеюць і лепшыя вырабы - льняныя.

Зладжаны калектыў «Барысаўчанкі» знаходзіцца ў пастаянным творчым пошуку, удзельнічае ў калегіях, аглядах-конкурсах, тэматычных вечарынах. Спадзяемся, што лепшыя дасягненні яшчэ наперадзе.

*І.Сямёнава*

# Мой горад - мой дом...

Здаецца так і трэба разважаць. А на самай справе?!

Вясна зняла снегавую вопратку, і мы ўбачылі чысціню ў сваім доме. Адна надзея, што на зварот старшыні гарвыканкама да кіраўнікоў установаў аб навядзенні да 15 красавіка парадку, тыя адпаведна адклікнуцца. Але ж гэта разавая акцыя. А далей?

Канкрэтны прыклад. Колькі існуюць гаражы ў раёне вуліцы 50 год БССР, столькі каля іх ляжаць горы смецця. Іх не прыбіраюць нават у вялікія суботнікі. Або пастаўце сабе задачу палічыць, колькі вам па дарозе дамоў ці на працу сустрэнецца непатрэбных бетонных вырабаў, якія валяюцца і нікому не прыходзіць думка вывезці ці як-небудзь скарыстаць.

Я ўпэўнены, што такое становішча ў нас толькі ад убітай у галаву думкі: гэта не маё. Дык чыё ж яно папраўдзе?

*М.Пучыла*

# Неўзаабаве лета



Фота С.Нялюбіна

# А людзі чакаюць...

Па вуліцы Батурына, 18 ( раён Белнацбанка ) больш за пяць гадоў будуецца дзевяціпавярховы дом рабочым завода «Медпрэпараты». На цяперашні час ён мае ўсяго тры паверхі і ніхто дакладна не ведае, наколькі расцягнецца будаўніцтва. Увесь гэты час рабочых завода частуюць абяцанкамі, што дом дабудуецца гэтым летам..., гэтай восенню... Але асірацелыя паверхі ўпарта не жадаюць расці ўверх і ўяўляюць сабой жахлівае відовішча: адсырэлыя з усіх бакоў сцены, выбітая цэгла... З будоўлі сярод белага дня бессаромна крадуцца будматэрыялы, сведкам чаго не аднаразова быў аўтар гэтых радкоў. Здаецца, будаўніцтва апынулася ў «вечнай мерзлаце», нягледзячы на тое, што ў 1998 годзе з Белнацбанкам быў падпісаны дагавор, па якому БНБ абавязваецца даць крэдыт на будаўніцтва дома, што будучыя жыхары заплацілі першыя ўзносы ў памеры 10% ад агульнага кошту кватэр, а апошні тэрмін здачы «пад ключ» закончыўся ў 1999 годзе!

Рабочыя завода, убачыўшы, што справы дрэнныя, вырашылі напісаць пісьмо Прэзідэнту РБ з просьбай, каб той накіраваў камісію, якая б разабралася ў складанай сітуацыі і прасачыла за дзеяннямі тых чыноўнікаў, што адказваюць за будаўніцтва і фінансы. Ці дапаможа гэта? Час пакажа. А пакуль недабудаваны дом у раёне Белнацбанка паціху разбураецца, а людзі чакаюць...

*У.Мядзвецкі*

# У чым іх віна?

Звычайная гісторыя, якая знаёмая кожнаму. Сын ці дачка папрасілі бацькоў купіць ім сабаку. Яны кляліся, што будуць даглядаць, прыбіраць за новым сябрам. Першыя некалькі тыдняў так яно і бывае. З цягам часу, калі сабака падрастае, аказваецца, што нікому ў сям'і няма калі накарміць ці выгуляць любімца. Што ж у такім выпадку застаецца рабіць? Адказ просты - адпусціць надакучлівую «цацку» на волю лёсу.

Амаль кожны дзень на прыпынку «Рынак» у старой частцы горада можна назіраць вынік такой гісторыі. Вялікі чорны сабака што называецца прыжыўся тут. Цяпер гэта яго новы дом. У кожным чалавеку ён шукае свайго гаспадара. Ён так жаласліва глядзіць у вочы, што цяжка ўтрымацца, каб не даць яму што-небудзь з ежы. У такім выпадку сабака ў думках падзякуе і падыдзе да другога чалавека. Ну, а калі не, то ён павoлі апускае галаву, быццам правініўся, і адыходзіць убок.

Дык чым жа правініліся гэтыя няшчасныя жывёлы? Што дрэннае яны зрабілі? Хіба вінаваты яны ў тым, што трапілі ў рукі нядбайных гаспадароў?

Людзі, будзьце дабрэйшымі, падумайце пра чацвераногіх сяброў, якія вельмі часта дапамагаюць нам у сённяшнім цяжкім жыцці.

*Сухаленцава Аксана*

# Уздзеянне эвалюцыі

Кожнаму з нас падабаецца блукаць па лесе сярод дубоў-асілкаў, прыгажунь-бяроз, ганарлівак-соснаў. Дзе навокал шапоча зялёнае лісце, а ветрык, блукаючы туды-сюды, забаўляецца з вецем.

Дрэвы ў нас на Барысаўшчыне заўсёды любілі. Раней паны ўпрыгожвалі свае сядзібы паркамі, некаторыя з якіх яшчэ захаваліся і ўражваюць нас незвычайнымі рэдкімі пародамі дрэў.Поймы рэк, азёр абсаджваліся дрэвамі, каб захаваць экалагічны стан вадаёмаў, а таксама ўпрыгожыць сваё жыццё. І што асабліва важна - дрэвы высаджвалі паабапал дарог, каб тыя, аддзяляючы праезджую частку дарогі ад пешай, хавалі нас ад сонца і дождждыку, рабілі паветра больш чыстым.Жыхары штогод клапаціліся пра іх знешні выгляд: бялілі кару, агароджвалі, абрэзалі лішняе вецце.

Падразаюць дрэвы і зараз, але часам так спрытна, што толькі пні блішчаць на месцы былых веліканаў. Дарэчы, ля знакамітага завода «Агрэгатаў» таксама апошнім часам пачалі знікаць дрэвы-асілкі. Здаецца, яшчэ ўчора ля дарогі стаяў прыгожы, крыху засмучаны клён, а сёння нават і след яго прастыў... Мабыць, рынуўся ў вырай, за сябрукамі - птушкамі. Ды і не ён адзін. Глядзіш, з цягам часу барысаўцы будуць жыць у пустыні. Няўжо тыя, хто займаецца абрэзкай-выразкай дрэваў, не ведаюць, што век дрэваў значна больш за век чалавека. І чым старэй дрэва, тым з большай стараннасцю трэба яго зберагаць. Дык як, будзем рабіць у горадзе пустыню?

*А. Іваноўскі*

# Марыць і спадзявацца?

Вельмі шкада, але падобна на тое, што мы так і пражывём да канца дзён сваіх з марай аб цывілізаваным узроўні жыцця.

А жыццё, як вядома, складаецца з дробязяў. Напрыклад давялося вам выйсці з вялікай ручной кладдзю з цягніка на барысаўскім вакзале. Выйшлі - і што ж? Хто бываў у падобнай сітуацыі, той ведае, што не кінуцца наперабой аказаць паслугу моцныя дзецюкі ў форменнай вопратцы і з нагрудным знакам работнікаў вакзальнай службы, а прасцей кажучы - насільшчыкі. Хоць гукай, хоць моўчкі стой - усё роўна застанешся пры сваім «непаддымным» інтарэсе.

Пры ўсім тым, Барысаў - буйная чыгуначная станцыя. Толькі ж вакзальны сервіз, нават самы, здавалася б, элементарны, - і той адсутнічае.

*А. Турко*



Фота М..Лазара

# Галасы маладых за здаровы лад жыцця

У лютым у нашым горадзе на базе дома дзіцячай і юнацкай творчасці прайшоў семінар-практыкум «Экалогія Барысаўшчыны: маладзёжная акцыя». Арганізатары семінара: цэнтр сацыяльна-педагагічнай рэабілітацыі, гарадскі аддзел адукацыі пры супрацоўніцтве з праектам «Галасы маладых за здаровы выбар жыцця» і мінскім клубам NEW LINE.

Нядаўна валанцёры сацыяльна-рэабілітацыйнага цэнтра стварылі ў Барысаве інтэлектуальны клуб пад назвай «Універсіток у рамках акцыі «Чысты дом». Яго асноўныя мэты: распрацоўка праектаў, задумы маладзёжных ініцыятываў па аднаўленні экалогіі краю. Удзельнікі семінара прыйшлі да ідэі данага праекта, зыходзячы з сучаснага разумення чалавека, здароўя, здаровага ладу жыцця, экалогіі. Яны правялі апытанне па пытанню: «Хто такі чалавек?» і атрымалі наступныя вынікі: чалавек унікальны, ён асоба - 15%, чалавек частка прыроды, асобы від жывёлы - 50%, чалавек - сацыяльны прадукт - 21%, чалавек - дзіця, толькі дарослае ( арыгінальна!) - 1,5%, чалавек - Божае стварэнне - 12,5%. Грунтуючыся на гэтых данных, можна зрабіць вывад, што чалавек - гэта біясацыяльная істота, якой патрэбны станоўчы ўплыў як грамадства, так і прыроды.

Так што давайце ствараць гэтыя ўмовы, каб развіваць нашы разумовыя здольнасці, плённа працаваць, абараняць навакольнае асяроддзе. Тады нам свет стане лепшым і святлейшым.

*І.Белы*



Клубаўцы за стварэннем новых праектаў

# Ці разумна гэта?

Калі хто думае, што ў нашым горадзе шмат абыякавых людзей, то ён памыляецца.

У рэдакцыю нашай газеты звярнуліся чытачы з просьбай разабрацца ў высечцы трынаццаці дарослых дрэў каля новага універмага, што будуецца ў раёне кінатэатра «Кастрычнік».

Па нашаму запыту гэтую неардынарную акцыю патлумачыў начальнік Барысаўскай Інспекцыі па ахове акаляючага асяроддзя Я.Ц.Барабанаў. У прыватнасці, мы даведаліся, што дазвол даваў выканкам, а інспекцыі толькі паведамілі. І наогул, начальнік Інспекцыі лічыць, што канадскі клён поўнасцю трэба замяніць, бо ён толькі псуе выгляд нашых вуліц.

І ўсё ж такі думаецца, што пагадзіцца з адказнай асобай можна толькі часткова. Старыя, сухія дрэвы трэба паступова замяняць дрэвамі нашымі, бо яны больш даўгавечныя і ўстойлівыя. А вось высечку больш дзесятка дарослых дрэў і агаліць добрую частку вуліцы, да таго ж у горадзе з пераважна хімічнай прамысловасцю, дык ці разумна гэта?

*М.Пучыла*

# Разам з вучнямі

Некалі, яшчэ ў юначым узросце, Алёна Іосіфаўна Янушэўская лічыла, што педагогам дастаткова нарадзіцца, каб цябе прызналі такім і вучні, і калегі. А што нарадзілася педагогам, у яе сумненняў не было. Адна з лепшых вучаніц сярэдняй школы №2, Алена адкрытай душой і сэрцам успрымала ўсё найлепшае, што давалі педагогі, з якімі , канешне ж, пашанцавала і якім засталася ўдзячнай на ўсё жыццё.

Калі ж пасля заканчэння механіка-матэматычнага факультэта БДУ высветлілася, што педагогам патрэбна яшчэ і станавіцца, Алёна не расчаравалася. З калегамі, як і некалі з настаўнікамі, ёй зноў пашанцавала. Алёна пачала свой працоўны шлях з барысаўскай гімназіі №1 пад непасрэдным кіраўніцтвам яе былой любімай настаўніцы Людмілы Эдуардаўны Бачыла.



Фота В.Пчолкі

На сённяшні дзень настаўнік вышэйшай катэгорыі Алёна Іосіфаўна Янушэўская мае ўжо дзесяцігадовы педагагічны стаж работы ў барысаўскім політэхнічным ліцэі. Сюды перайшла яна некалі па запрашэнню дырэктара гэтай навучальнай установы, адчуваючы ў сабе прызванне працаваць менавіта са старэйшымі дзецьмі, якія патрабуюць да сябе па-даросламу сур`ёзных, а таму вельмі ўважлівых і псіхалагічна тонкіх адносін.

У матэрыялах, падрыхтаваных калектывам ліцэя да конкурсу педагагічнага майстэрства на званне «Настаўнік года-2000», у якім паспяхова ўдзельнічала Алёна Іосіфаўна, знаходзім выразныя і глыбокія яе характарыстыкі. Калегі лічаць Алёну Іосіфаўну педагогам шырока адукаваным і эрудзіраваным. Урокі яе заслугоўваюць самай высокай адзнакі, бо з'яўляюцца разнастайнымі па характару ўжытых педагагічных і метадычных прыёмаў, глыбока навуковыя і служаць найлепшым чынам галоўнай мэце - развіццю асобы вучня. Усе гэтыя перавагі адзначыла і журы конкурсу, якое ацаніла адкрыты ўрок матэматыкі, дадзены Алёнай Іосіфаўнай, адным з самых высокіх балаў.

Вучні выказваюцца аб настаўніцы ў высокім і адначасова трапяткім, пяшчотным тоне. Яны прысвячаюць ёй вершы, у якіх называюць любімую настаўніцу «царыцай паняццяў і лічбаў», а яшчэ найлепшым сябрам і дарадчыкам.

Аснова прафесіянальнага самасцвярджэння настаўніка - глыбокае веданне прадмета. З такім перакананнем Алёна Іосіфаўна распачала сваю педагагічную дзейнасць і дасягнула ў ёй бясспрэчных вынікаў. Калі настаўнік добра ведае свой прадмет, лічыць Алёна Іосіфаўна, тады падуладна яму і творчая перапрацоўка педагагічных тэхналогій, якая павінна ў канчатковым выніку дапамагчы выпрацаваць уласную методыку, максімальна набліжаючую навучанне да індывідуальнай работы з кожным вучнем.

Аднак вучань пры гэтым яшчэ павінен хацець вучыцца. І гэта - таксама адна з найвялікшых творчых задач педагога. Каб паспяхова вырашаць яе, лічыць настаўніца, патрэбна проста любіць дзяцей.

Непадуладны канкрэтным фармулёўкам, сакрэт выхаваўчага таленту Алёны Іосіфаўны заключаецца, хутчэй за ўсё, у глыбіні і разнастайнасці яе натуры. Яшчэ ў дзіцячым узросце яе незвычайна цікавілі ўсе бакі жыцця. У школе, напрыклад, яна з захапленнем спасцігала як псіхалагічную глыбіню, філасофскі змест літаратурных твораў, так і абстрактныя глыбіні матэматыкі. Разнастайная адукаванасць, дасведчанасць з'яўляюцца для яе проста натуральнай умовай нармальнага быцця.

Настаўніца матэматыкі, якая дасканала валодае беларускай мовай і, галоўнае, выкарыстоўвае яе ў выхаваўчым працэсе, - гэта, вядома ж, вельмі натуральна. Працягваючы сваё юнацкае захапленне, Алёна Іосіфаўна піша п'есы на беларускай мове і ставіць іх са сваімі вучнямі. А з той пары, як стала прыхаджанкай Касцёла, захапілася яшчэ і польскай мовай, самастойна вывучыла яе і цяпер з'яўляецца перакладчыцай царкоўных тэкстаў з польскай мовы на беларускую.

У педагагічнай практыцы новая грань жыцця настаўніцы таксама засіхацела іскрынкамі творчасці. Захацелася прызвычаіць дзяцей да шанавання нацыянальных культурных каранёў, беларускай самабытнасці. І пачалі прыжывацца ў ліцэі стараннямі Алеёны Іосіфаўны калядныя прадстаўленні, святы ў нацыянальным стылі.

У пачатку сакавіка Алёна Іосіфаўна запрасіла сваіх вучняў у лясное вандраванне - гукаць вясну, паліць касцёр і пячы на ім блінцы. З групай энтузіястаў падрыхтавалі для ўсіх сюрпрыз - «Кікімару», «Лесавіка» і, вядома ж, прыгажуню «Вясну». І гэта быў, бясспрэчна, адзін з найлепшых дзён іх сёлетняй вясны. На шматлікіх здымках бачны шчаслівыя твары вучняў і іх настаўніцы. Яны - разам.

*А.Турко*



Фота В.Пчолкі

# Музей «Міласэрнасці і мужнасці»

Музей «Міласэрнасці і мужнасці» створаны ў Барысаўскім медыцынскім вучылішчы. Ён распавядае аб гісторыі гэтай установы; аб медыках, якія, пакінуўшы сцены вучылішча, працягвалі навучанне ў мединстытуце, сталі ўрачамі і працягваюць сяброўства з вучылішчам, з музеем.

Гісторыя вучылішча - этапы вялікага шляху. У1930 годзе ў Барысаве быў створаны рабфак, а праз 6 год на базе рабфака - медвучылішча. Першым дырэктарам быў Усовіч.

Восенню пачынаецца працоўны семестр, улетку - другі, і ў гэтым плане будучыя медыкі паказалі сябе з лепшага боку. «У працы - як у баі» - альбом распавядае аб працоўным семестры медвучылішча.

Далей ідзе падрабязны расказ аб студэнтах, якія прымалі ўдзел у афганскай вайне: Шчуцкі В.І., Жызнеўскі Г.В., Коба В.Н. - маладыя бязвусыя хлопцы, яны прайшлі яе цяжкімі шляхамі.

Не толькі хлопцы, але і дзяўчаты прайшлі па гэтай страшэннай вайне: Грук Таццяна Мікалаеўна была аперацыйнай медсястрой, яна цяпер працуе ў цэнтральнай гарадской бальніцы. Стральчонак Галіна Генадзеўна служыла медсястрой, загінула, пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Чырвонай Зоркі, Барышава Валянціна Рудольфаўна - урач-тэрапеўт. Лячыла нашых хлопцаў у Афганістане, працуе ў II паліклініцы. Бутар-Іванова Марыя Пятроўна служыла медсястрой у той вайне, працуе ў шпіталі. Загорскі Міхаіл Пятровіч служыў у Кабуле. Усе яны ўзнагароджаны медалямі. Гледзячы на партрэты гэтых мужных людзей, будучыя медыкі душой дакранаюцца да подзвігу, які здзейснілі іхнія маладыя калегі ў афганскай вайне.

Далей ідзе расказ пра медыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. З партрэта глядзіць строгая, добразычлівая жанчына - гэта Вольга Ціханаўна Бакун, урач акушэр-гінеколаг. У гады вайны яна кіравала падпольнай групай урачоў, якія паставілі на ногі 57 цяжкапараненых чырвонаармейцаў. Яе група была цесна звязана з брыгадай Дзядзькі Колі. Гэтая адважная жанчына працавала ў падпольным шпіталі і прааперыравала 362 партызаны. Цяжка было працаваць у невыносных умовах вайны: не хапала лекаў, перавязачных матэрыялаў, інструментарыя. Аперыравалі пры святле лучыны, мылі бінты, высушвалі іх і зноў перавязвалі раненых. Працоўны стаж Вольгі Ціханаўны 46 гадоў. Яна заслужаны ўрач БССР, узнагароджана дзесяццю медалямі, Граматай Вярхоўнага Савета БССР. У свой час доктар В.Ц. Бакун перадала свае ўспаміны, каштоўныя фотаздымкі, уласныя рэчы, кнігі музею. Усё сваё жыццё В.Ц.Бакун вучыла маладых сваёй прафесіі, дабру, справядлівасці, душэўнай шчырасці. У студзені 1992 года Вольгі Ціханаўны не стала.

Пётр Мікалаевіч Вусцін, урач, кіраваў падпольным шпіталем, лячыў раненых, многім выратаваў жыццё. П.М.Вусціна два разы немцы арыштоўвалі, але ў іх не было доказаў яго віны, і яго адпускалі. Калі стала зусім немагчымым у далейшым працаваць у шпіталі, ён разам з жонкай пайшоў у партызаны, яго і там чакалі раненыя, якім ён быў патрэбен, як паветра.Немагчыма пералічыць усіх тых, каму выратаваў жыццё П.М.Вусцін. Пасля вайны ён працаваў у III паліклініцы, затым паехаў у Новасібірск, але пастаянна падтрымліваў сувязь з вучылішчам, музеем.

Стэнды музея яскрава распавядаюць аб высакародных людзях, якія з'яўляюцца гонарам вучылішча: Марыя Васільеўна Паўлавец - яна скончыла рабфак, затым медінстытут, у вайну была ваенным урачом. Ядвіга Браніслаўна Яцкова - педыятр, ваявала, пасля вайны працавала ў II паліклініцы. Медвучылішча скончыў хірург П.Нікіфаровіч, паэт Л.Рашкоўскі.

Наша медвучылішча - адно са старэйшых у Беларусі, яму больш 60 гадоў.

У 1985 годзе пачалі ствараць музей. Стваральнікам і дырэктарам музея з'яўляецца Іна Сяргееўна Шурасева, выкладчыца біялогіі. Быў створаны савет музея, у яго склад увайшлі настаўнікі, адміністрацыя і студэнты. З ліку студэнтаў Іна Сяргееўна падрыхтавала экскурсаводаў. Дапамагалі ствараць музей усе настаўнікі і студэнты. Актыўны ўдзел прынялі Людміла Львоўна Дабравольская, Ніна Васільеўна Выжымно, Наталля Аляксандраўна Качан.

Першая экскурсія ў музеі адбылася ў маі 1988года.Глыбока змястоўная работа музея. У ім праходзяць тэматычныя экскурсіі, гутаркі, выхаваўчыя гадзіны, выставы, сустрэчы з былымі выпускнікамі, з урачамі. Музей праводзіць даследчую і збіральніцкую работу. Сабрана каля тысячы экспанатаў, наладжаны кантакты з былымі навучэнцамі, выкладчыкамі. Сабрана гісторыя гарадскога раддома, гарадской стаматалогіі, раённай паліклінікі.

У музеі пабывалі студэнты, школьнікі, навучэнцы ПТВ, турысты - больш 6 тысяч чалавек.Фотаздымкі для стэндаў выканаў фатограф Генадзь Васільевіч Мацкевіч.

Мэта музея: зберагчы памяць аб выкладчыках, студэнтах, данесці яе да патомкаў.У кожнага чалавека ёсць хобі, у І.С.Шурасевай - музей. Яна ўвесь час займаецца пошукам новых экспанатаў, людзей. Яе праца карпатлівая, патрабуе цярпення. Я слухаю Іну Сяргееўну і думаю аб яе таленце, што дапамагае ўбачыць міласэрнасць і мужнасць нашых медсёстраў, урачоў. А як выразна яна чытае вершы барысаўскай паэтэсы - урача-неўрапатолага Алы Васільеўны Лапошыч аб медсёстрах. Як шмат даюць яе экскурсіі ўсім, хто прыходзіць у музей.

Іна Сяргееўна Шурасева- адказны чалавек, энтузіяст, улюблёны ў сваю справу. У яе ўсё так зладжана, што здаецца няма нічога лягчэй, чым правесці экскурсію. Але гэта не так, за гэтай лёгкасцю яе здольнасці, шматгадовы вопыт, любоў да справы. Яна не проста вядзе экскурсію, яна вучыць міласэрнасці і мужнасці.

*С.Смольская*

# Алкаголь і падлеткі

Барысаўскую Інспекцыю па справах непаўнагадовых (ІСН) узначальвае маёр Альберт Аляксандравіч Талбанаў. У 1997 і 1998 гадах яна прызнана лепшым падраздзяленнем міліцыі грамадскай бяспекі ў горадзе.

А звярнуцца да Альберта Аляксандравіча прымусіла такое пытанне, як падлеткавае п`янства і алкагалізм. Па спецыфіцы работы, усе падлеткі (да 18 гадоў), якія затрымліваюцца і дастаўляюцца ў аддзяленні міліцыі ў нецвярозым стане, гэта яго «кліенты».

Як бачна на працягу 4-х гадоў, лічба падлеткаў, якія стаяць на ўліку ў ІСН па алкаголю, застаецца амаль што аднолькавай. Але гэта колькасць тых, хто быў затрыманы, прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці і пастаўлен на улік у ІСН. На самой справе, гэта лічба кожны год болей прыкладна на 100 чалавек. Да іх былі прыменены іншыя меры пакарання (папярэджанні, тлумачальныя гутаркі і іншыя). Амаль што 1/3 тых, хто стаіць на ўліку, затрымліваюцца ў нецвярозым стане паўторна на працягу года.

Кожны юнак ці дзяўчына, якія трапляюць ў ІСН па алкагольнаму артыкулу атрымліваюць накіраванне да нарколага, кожнаму з іх тлумачыцца неабходнасць гэтай працэдуры. Справа ў тым, што ўрач-нарколаг можа выявіць першыя прыкметы захворвання алкагалізмам, хаця сам пацыент можа аб гэтым не ведаць. Але толькі 1/3 з усіх, каму былі выданы накіраванні, наведваюць нарколага. У 1999 годзе з 445 чалавек толькі 96 прайшло агляд у яго. 22-м падлеткам было прапанавана амбулаторное лячэнне, а 6-м - стацыянарнае ў Навінках. У першым квартале 2000 года са 155 чалавек, што атрымалі накіраванне да нарколага, «дайшлі» да яго толькі 53, 10-м з іх было прапанавана амбулаторнае лячэнне, а 2-м стацыянарнае.

Дадзеныя за першы квартал 2000года істотна не адрозніваюцца ад таго ж перыяду папярэдняга года. За гэты час сярод 155 падлеткаў, якіх затрымалі, 14 маюць працу, 25 нідзе не працуюць і не вучацца, 80 - школьнікаў,30 - навучэнцаў ПТВ, 6 - усіх астатніх.

Альберт Аляксандравіч адзначыў, што медыцына ўсё больш прыцягваецца да гэтай праблемы, але і тут не абыходзіцца без цяжкасцей. Гораду вельмі патрэбна лабараторыя з крыміналісцкім абсталяванем, тэст-сістэмамі для аналізу біялагічных асяроддзяў арганізма на ўтрыманне наркатычных сродкаў (як вядома алкаголь таксама наркотык). Пакуль што гэта ўсё робіцца праз Мінск. Але, нягледзячы на праграму прынятую гарвыканкамам «аб барацьбе са злоўжываннем і незаконым абаротам наркоцікаў» ад 30.05.1998 года, адкрыцце лабараторыіі год ад года адкладваецца з-за адсутнасці сродкау фінансавання.

Калі глядзець на графікі, то бачна, што сярод усіх «гасцей» ІСН часцей усяго там бываюць школьнікі. Яны апярэджваюць усіх, нават тых, хто не працуе і нідзе не вучыцца.

Але падлеткавае злоўжыванне спіртнымі напоямі не толькі сацыяльная і медыцынская праблема. Вядома, што «п`янаму-мора па калена». Таму, прыняўшы «на грудзі» падлетка цягне да подзвігаў, якія, як звычай, сканчваюцца артыкулам па хуліганству, крадзяжу, разбою і іншаму.

Зноў хачу паўтарыцца - мы настолькі звыкліся з гэтай праблемай, што ўжо не бачым яе, але гэта чума болей за чуму XX века - СНІД. Так, напэўна, адбываецца таму, што СНІДу ў нас, слава Богу, сустракаюцца лічаныя выпадкі, аб якіх трубяць на ўсю рэспубліку. Да п`янага падлетка ў сябе на лесвічнай клетцы, у пад'ездзе ці на вуліцы мы ўжо звыкліся.

*М.Лазар*

### Колькасць непаўнагадовых, што стаялі на ўліку ў ІСН






***Першы з двух разводных мастоў, які быў пабудаваны ў Барысаве на пачатку XX стагоддзя. Яго агульны від (знізу), разводны пралёт (зверху)***





# Барысаў - горад разводных мастоў

Праз Барысаў працякаюць рэкі Бярэзіна, Сха і Пліса. Існавалі раней і больш дробныя рэчкі, якія пачыналіся і заканчваліся ў межах тэрыторыі сучаснага горада. Аднак ад большасці з іх пасля наступу «цывілізацыі» нічога не засталося. Былі ў Барысаве і каналы. Яшчэ параўнальна нядаўна недалёка ад вуліцы Дымкі можна было назіраць сістэму каналаў ад былога тамтэйшага маёнтка. Не дзіва, што пры такой колькасці водных артэрый мастам у Барысаве заўсёды надавалася асаблівая ўвага. Масты ж праз Бярэзіну заўсёды мелі вялікае стратэгічнае значэннё не толькі для горада, але і для нашай дзяржавы наогул.

Як ужо пісалася ў нашай газеце, найбольш старое пісьмовае ўзгадванне пра мост у Барысаве праз Бярэзіну адносіцца да 1595 года. Ён быў драўляным і меў даўжыню каля 450 метраў. З таго часу да вайны 1654 - 1667 гадоў мост, відаць, перабудоўваўся. Праіснаваў ён да 1655 года, калі быў спалены падчас вайсковых дзеянняў. У тым жа годзе ён быў адноўлены. У пасляваенныя гады наша дзяржава знаходзілася ў вельмі цяжкім стане. Таму мост праз Бярэзіну ў той перыяд увесь час не існаваў. У прыватнасці, вясной 1697 года ў Барысаве была толькі паромная пераправа. Летам 1699 года праз Бярэзіну ўжо быў доўгі драўляны мост, які некалькі разоў перасякаў старыя рукавы і рэчышча Бярэзіны. На працягу XVIII стагоддзя мост не раз перабудоўваўся зноў.

Пасля таго, як у 1805 годзе завяршылася будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы (пра яе чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў нашай газеты), значэнне Бярэзіны як транспартнага шляху значна павялічылася.Таму патрабаванні да ўласцівасцяў маста і яго здольнасцей прапускаць вялікія (па мерках Бярэзіны) судны сталі больш жорсткімі. Мост, які існаваў на пачатку XIX стагоддзя, задавальняў гэтым патрабаванням, і не выключана, што меў пад'ёмную частку. Аднак ён згарэў падчас вайны 1812 года. Аднаўлены мост быў толькі ў 1818 годзе. Ён быў невысокім, не з'яўляўся разводным, і таму пасля яго пабудовы спынілася судаходства вялікіх судоў вышэй Барысава. З 1834 года па той самай прычыне суднаходства па Бярэзіне за нашым горадам было спынена наогул. Здзяйсняўся толькі сплаў лесу.

У 1843 годзе ў Барысаве быў пабудаваны новы драўляны мост. Ён быў разводны (дарэчы, гэта найбольш старое дакладнае ўзгадванне пра разводны мост у Барысаве) і дазволіў аднавіць суднаходства па Бярэзіне ў поўным памеры. У 1863 годзе ў Барысаве быў , хутчэй за ўсё, ужо іншы разводны мост. Яго будаўніцтва абышлося дзяржаўнай казне ў 15000 рублёў серабром. Ён складаўся з трох асобных мастоў, да якіх падыходзілі дамбы. Асноўная частка маста, якая праходзіла над рэчышчам Бярэзіны, мела працягласць каля 500 метраў і ўтрымлівала пад'ёмную, на ланцугах, частку. Дзве астатнія яго часткі былі пракладзены над старымі рэчышчамі і мелі даўжыню па 60 і 125 метраў.

Мост, які існаваў у Барысаве на пачатку XX стагоддзя, не меў разводной часткі. Ён складаўся з пяці асобных мастоў і дамбаў. Мост над асноўным рэчышчам быў даўжынёй 77 метраў. Другі, трэці і чацвёрты масты праходзілі над рукавамі Бярэзіны і мелі даўжыню адпаведна 64, 83 і 58 метраў. Пяты мост праходзіў праз старое рэчышча і меў даўжыню каля 68 метраў. Кожны мост стаяў на шасці драўляных апорах і меў шырыню каля 8,5 метраў. Вышыня маста над узроўнем вады ў Бярэзіне была 3,2 метра.

Аднак у хуткім часе замест яго быў узведзены спачатку адзін, а потым і другі разводны мост.

У выніку войнаў першай паловы XX стагоддзя масты не раз паліліся і адбудоўваліся зноў. Зараз у Барысаве і непасрэдна на яго ўскраінах праз рэкі Бярэзіну, Сху і Плісу пракладзена дзевяць мастоў, але сярод іх няма ніводнага разводнага.

***М.Мацельскі***

***(Фота з архіва Барысаўскага краязнаўчага музея)***

*Разводны механізм*



*Шлях з Нова-Барысава ў Барысаў па першаму разводному масту*



*Другі разводны мост, які быў пабудаваны ў Барысаве на пачатку XX стагоддзя. Яго пад`ёмная частка паказана на першай старонцы газеты.*





*Возера Пялік - адзін з найпрыгажэйшых і найбольш цікавых куткоў Барысаўшчыны. Яго бязлюднасць, бязмежныя навакольныя лясы і балоты робяць гэту амаль некранутую частку нашага краю ўнікальнай.*

*Пялік з'яўляецца самым вялікім возерам у нашым краі. Яго плошча 7,68 квадратных кіламетраў, даўжыня берагавой лініі - 18,5 кіламетраў. Даўжыня возера 6,2 кіламетра, найбольшая шырыня - 3 кіламетры. Аб'ём вады ў возеры - 8,76 мільёнаў квадратных кіламетраў. Сярэдняя глыбіня возера 2,2 метра, максімальная глыбіня - 3,1 метра. У возеры Пялік жывуць 30 відаў рыб, а надводная расліннасць па яго краях месцамі прарастае на аддаленасці ад берага ў 500 метраў.*

# *Возера Пялік (Палік) - мора Барысаўшчыны*





## Травень

Кожны народ спрадвеку вёў свой каляндар. У ім з пакалення ў пакаленне перадаваліся багацейшы духоўны свет нашых продкаў, мудрасць, веды, вопыт жыццёвых назіранняў. Абапіраючыся на традыцыі бацькоў, іх веру, кожны добра ведаў, калі можна весяліцца, а калі ўстрымацца ад забаў, калі працаваць, а калі, наадварот, адкласці працу, каб не нашкодзіць сабе і блізкім. Яскравая фантазія, гумар адбіліся ў абрадах, звычаях, прыкметах і павер'ях, якімі ледзь не кожны дзень гадавога кола. Дзякуючы пільнаму назіранню ў навакольны свет, нашы продкі вучыліся разумець мову прыроды, і яна часам дапамагала ім.Сёння, калі рэзка пагоршылася экалагічная абстаноўка, рэзка мяняецца клімат, весткі, пачэрпнутыя з народнага календара, не бяруцца як непахісныя правілы, рэкамендацыі. Кожны дзень года ў хрысціянскіх календарах (як праваслаўным, так і каталіцкім), быў запоўнены імёнамі святых, пракракаў, апосталаў, пакутнікаў. Прапануем чытачам зазірнуць у каштоўную скарбніцу нашых продкаў.

Апошні месяц вясны ( быў ён з ранні ці запозненым цяплом) звычайна распускалася зеляніна. Пра гэта і нагадвае нам назва месяца - травень. Снег і мароз у апошнім веснавым месяцы прадказвалі засушлівае лета, дрэнныя спадзяванні пчалярам. Дажджы і грымоты паведамлялі пра добры ўраджай. Калі ноч на першы дзень траўня зорная і вее цёплы паўдзённы вецер - лета будзе з бурамі, але цёплае і ўраджайнае.

**1/18** Іван, Віктар, Зінон, Сеўрыян, Аўксенцій, Кузьма. На гэты дзень прынята было сеяць моркву, буракі.

**2/19** Іван, Хрыстафор, Антанін, Пафнуцій, Георгій, Трыфан, Нічыпар.

**3/20** Хведар, Аляксандр,Гаўрыла, Рыгор, Анастас.

**4/21** Януар, Яўхіцій, Хведар, Дзяніс, Ісак, Сакрат.

**5/22** Хведар, Усевалад, Гаўрыла, Лука, Клімент, Віталь.

**6/23** Георгій (Юр'я). Менавіта з Юр'я, як лічылі, пачыналася сапраўдная вясна. З Юр'ем звязваўся, як правіла, першы выпас жывёлы (запасаў для яе павінна было хапіць як мінімум да гэтага дня - « На Юр'я каб сена было і ў дурня»), «Калі на Юр'я мароз - будзе добры авёс» -лічылі дбайныя гаспадары. Снег у гэты дзень падаваў надзею на вялікі ўраджай грэчкі, добры дождж - густое вялікае жыта. Раса таксама абяцала прыбытак: «Калі на Юр'я раса - хопіць коням аўса». Спадзяваліся, што святы Юр'я з'яўляецца абаронцам хатняй жывёлы і гаспадаркі. Статак стараліся выгнаць зарань, на цудадзейную расу ў гэты дзень. Перад тым, як выгнаць жывёлу, гаспадар тройчы абходзіў яе з запаленай грамнічнай свечкай і апырскваў свянцонай вадою. Жывёлу абкурвалі падпаленымі купальскімі зёлкамі, якія захоўваліся ў кожнай хаце. Выганялі скаціну з хлява, пасцёбваючы асвячонымі на Вербніцу галінкамі вярбы, затым яе ўтыкалі ў хляве ад злых духаў. Асвячоная вербачка таксама ўторквалася ў зямлю з вераю, што гэтым самым удасца абараніць ніву ад граду.

**7/24** Сава, Валянцін, Лявонцій, Хама, Лізавета, Аляксей, Аўсей. «Аўсей - авёс сей».

**8/25** Марк, Сільвестр, Станіслаў. « Дождж на святога Марка - дык зямля, як скварка». Адзначаны ў каталіцкім календары Станіслаў даваў селяніну свае парады на гэты дзень: «Сей лён на Станіслава - вырасце, як лава»

**9/26** Васіль, Сцяпан. Глафіра.

**10/27** Сымон, Сцяпан, Яўлогій.

**11/28** Кірыл, Віталь, Максім.

**12/29** Арцём, Хвядот, Філімон, Васіль, Іван.

**13/30** Мікіта, Ігнат, Данат, Васіль, Максім, Якуб. «На Якуба грэе люба».

**14/1** Ігнат, Акакій, Макар, Пафнуцій.

**15/2** Дзень Барыса і Глеба. У гэты дзень шанаваліся крыніцы, якія не замярзалі і лічыліся гаючымі, асабліва ад хвароб вачэй.

**16/3** Маўра, Цімох, Хвядос, Пётр.

**17/4** Палагея, Мікіта, Кірыл, Нічыпар, Клімент, Ісак, Сільван.

**18/5** Ірына, Якуб.

**19/6** Іоў, Міхей, Дзяніс.

**20/7** Акакій, Ніл, Іван, Давыд, Зянон, Фадзей, Язэп, Сідар, Міхал, Сцяпан.

**21/8** Арсень, Пімен, Іаан Багаслоў. У гэты дзень не выкарыстоўвалі коней, каб пазбегнуць у будучым няшчасных здарэнняў з імі. Садзілі моркву, агуркі,рэдзьку, цыбулю.

**22/9** Мікола веснавы. «Да Міколы няма дабра ніколі»- гаварылі ў народзе, маючы на ўвазе надвор'е. «Мікола пагоду ставіць», таму ён зваўся цёплым. «Да Міколы не сей грэчкі, не стрыжы авечкі».

**23/10** Сымон, Кіпрыян, Анісім, Эразм, Сідар, Таіса, Зілот. «Сей пшаніцу на Зілота - яна будзе, як злота».

**24/11** Дзень Кірылы і Мяфода. Па ім меркавалі пра ўсё астатняе лета. Калі ён мокры - лета будзе мокрае, калі сухі - усё лета сухое. У гэты дзень забаранялася араць, каб градам не пабіла пасеваў.

**25/12** Епіфан, Герман, Ермаген, Дзяніс, Савін.

**26/13** Глікерыя, Макар, Аляксандр, Георгій, Ірына, Яўхімія.

**27/14** Максім, Сідар. У гэты дзень дапускаўся налёт халодных вятроў: «Прыйшлі Сідары - прыйшлі і сівяры».У гэты дзень чакаюць кароткае пахаладанне.

**28/15** Пахом, Ісай, Дзмітры. «Пахом павее цяплом». На Пахома дазвалялася ўсё рабіць, абавязкова стараліся пасадзіць агуркі: «Пасееш агуркі, калі Пахом, - будзіш насіць мяхом».

**29/16** Хведар, Яфрэм, Касьян, Лаўрын, Аляксандр, Мадэст, Муза, Сава, Георгій. А каталіцкі каляндар згадвае Магдалену, якая «зязюльку прысылае».

**30/17** Андронік, Ефрасіння, Еўдакія, Сцяпан.

**31/18** Хвядот, Пётр, Дзяніс, Андрэй, Павел, Хрысціна, а таксама Сем дзеў. Лён раілася сеяць не пазней гэтага дня.

***Падрыхтавала Ī.Граковіч***

## Прыродная лякарня

Аер. На Барысаўшчыне ён знаёмы ўсім. Расце па берагах рэк, азёр, балот. А між тым, наша беларуская прырода яго не ведала. Аер завезлі татары, а радзіма гэтай расліны - Кітай і Індыя. Татары зрабілі выснову, што ваду з вадаёмаў можна піць толькі там, дзе расце аер - не захварэеш. Гэта назіранне мае пад сабой аснову. Горкі гліказід, дубільныя рэчывы, вялікі запас аскарбінавай кіслаты ( да 150 мг.), фітанцыды і смолы добра дэзінфіцыруюць кішэчнік, паляпшаюць апетыт, страваварэнне. Пры гастрытах, калітах, пухлінах адвар, настой корня аера - першы сродак. Гэта лекавая расліна знімае боль, супакойвае запалечны працэс у слізістай, валодае дэзінфіцыруючым, жаўцегонным і мачагонным уздзеяннем. Знаходзіць прымяненне пры халецысцітах, мочакаменнай хваробе, рэўматызме. Экстракт аеру паніжае артэрыяльны ціск. Настоем і адварам прамываюць гнойныя раны, супакойваюць зубны боль. Тыя, хто прымае «Вікалін», «Вікаір» павінны ведаць, што ў аснове гэтых лекаў - корань аеру. Корань аеру можна адварыць у цукры або мёдзе. Атрымаеце добры сродак для страўніка. Парашком аеру пасыпаюць старыя, доўга не зажываючыя язвы. Адварам карнявішчаў мыюць галаву для больш хуткага росту валасоў.

Для таго, каб прыгатаваць настой, здробленыя карэнні заліць кіпятком ( 1:10 ) і грэць на вадзяной лазні 15 хвілін. Прымаць пажадана цёплым па 2 сталовыя лыжкі 3-4 разы на дзень. Настойку трэба рабіць на гарэлцы ці 40% спірце. Суадносіны каранёў і спірту 1:5. Настайваць 40 дзён у цёмным месцы. Прымаць па 20-30 кропель 2 разы на дзень да яды.

Калі вас зацікавіла гэтая расліна, спяшайцеся нарыхтоўваць яго ранняй вясной. Ці, прыкмеціўшы месца яго знаходжання, назапашвайце позна восенню. Карэнні трэба выкопваць вельмі асцярожна. Сушыце пры невысокай тэмпературы, патроху прыбаўляючы цяпло. Захоўвайце высушаныя карэнні ў шкляным посудзе.

***Ī.Магуш***

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-12 за 1996 - 2000 гг.)*

Пад восень актыўнасць маскоўскіх войскаў спала. У выніку кампаніі 1655 года яны ўжо трымалі ў сваіх руках Вільню, Коўна, Гародню і шэраг іншых гарадоў Княства. Увосень маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч рушыў праз Барысаў у Маскву. Тады ж, у верасні, у Барысаў з Менска прыбыў маскоўскі ваявода Чаркаскі з усімі сваімі жаўнерамі. У нашым горадзе ён правеў іх агляд, пасля чаго меў намер адпусціць ратнікаў на зіму дадому.

Новая маскоўская ўлада ў 1655 годзе, адразу пасля замацавання, змяніла адміністрацыйна - тэрытарыяльны падзел у нашым краі. Быў утвораны Барысаўскі павет. Уводзілася новая сістэма кіравання па прыкладу Масковіі. Для кіравання справамі ў Барысаў быў прызначаны ваявода. У 1656 годзе гэтую пасаду займаў Аўтамон Іванавіч Яропкін. У чэрвені 1657 года замест яго быў прызначаны Іван Ржэуцкі, з 29 чэрвеня 1658 года - Фёдар Нарбекаў, а з 12 траўня 1660 года - Кірашка Хлопаў. У Барысаве не пазней чым з чэрвеня 1657 года была ўтворана рэзідэнцыя ўпаўнаважанага маскоўскага цара князя Шарамецева. Знаходзіўся ён у нашым горадзе не менш чым да траўня 1658 года.

Асаблівая ўвага маскоўскай улады надавалася адбудове і падтрыманню ў добрым стане замкаў. Яны былі адбудаваны яшчэ пры ваяводзе Яропкіне. Як і раней, замкі заставаліся драўлянымі. Стары замак пасля адбудовы меў чатыры сцяны, адну ўязную браму і двое варот з боку вады. Меў ён і тайнік да Бярэзіны. На новым замку быў пастаўлены астрог.

Яшчэ 3 снежня 1655 года маскоўскім урадам быў выданы ўказ, па якому Яропкіну прадпісвалася пасланць з Барысава ў Менск тры роты жаўнераў для пабудовы там крэпасці. 28 снежня патрабуемыя вайсковыя сілы выйшлі з нашага горада. У самім жа Барысаве засталося значна большае войска.

У 1659 годзе барысаўскія замкі былі яшчэ больш узмоцнены. Вышыня сцен старога замка з дапамогаю тоўстых сасновых бярвенняў была даведзена да 5,5 - 6 метраў. На сценах былі зроблены байніцы. Вышыня астрога на новым замку была таксама даведзена да 5,5 - 6 метраў. Апроч таго ў той самы час быў пабудаваны паміж замкамі падвясны мост. Вясной 1661 года ўмацаванні старога замка былі часткова абноўлены. Быў пашыраны больш чым да 16 метраў і паглыблены да 10,5 метраў абвадны роў. Значна палепшаны земляныя ўмацаванні другога замка і яго сцены. У выніку прынятых мер барысаўскія ўмацаванні сталі аднымі з найбольш моцных з тых, што былі ўтвораны або адбудаваны на тэрыторыі Вялікага княства.

Новая адміністрацыя масава прымусова вывозіла ў сваю дзяржаву «простых» людзей. У спакоі пакідалі толькі тых, хто прымаў праваслаўе. Для кваліфікаваных рамеснікаў нешкадаваліся вялікія грошы для зацікаўлення іх у пераездзе ў Маскву. Так, у лютым 1657 года Аружэйнай палатай у Маскве былі мэтанакіравана выдзелены грошы для набору на службу «розных спраў майстроў» у розных захопленых гарадах, у тым ліку і ў Барысаве.

Шведская пагроза і цяжкасці, якія чыніла вайна абодвум бакам, прымусілі ў 1656 годзе як Вялікае княства, гэтак і Масковію шукаць шляхі да замірэння. Ужо ў лютым 1656 года Масква пачала рабіць у гэтым накірунку пэўныя дыпламатычныя захады. Як адно з магчымых месцаў для правядзення перамоваў разглядаўся Барысаў. У 1657 годзе ад Яна Казіміра да Масквы былі накіраваны паслы Уладзіслаў Камар і Валер'ян Кучэўскі. Яны спыняліся ў Барысаве, дзе ваявода Ржэўскі даў ім праважатых. Аднак перамовы распачаліся толькі 12 жніўня пад Вільняй. У рэшце рэшт 3 лістапада 1656 года замірэнне было падпісана. Але пратрымалася яно нядоўга.

Да канца 1656 года на Барысаўшчыне набывае вялікія маштабы партызанскі рух. Нямала ў той час ішло данясенняў у Маскву аб нападзенні ў Барысаўскім павеце на маскоўскія заставы. Гэтаму вельмі спрыяла і рабаўніцтва, якім займаліся маскоўскія войскі. Асабліва адзначаліся ў гэтым у Барысаўскім павеце атрады казакоў. Яны нярэдка рабавалі і збівалі на смерць нават тую невялікую тутэйшую лаяльную да маскоўскіх уладаў частку сялян і шляхты. Ненармальнасць такога становішча разумелі і самі маскоўцы. Таму яшчэ да чэрвеня 1656 года казацкія заставы з наваколля Барысава былі ўбраны.

К ліпеню 1657 года ў Вільні была моцная эпідэмія, якая ў красавіку 1657 года дайшла да нашага краю. Яна забрала шмат жыццяў. У студзені 1658года эпідэмія пачала заціхаць.

Увосень 1658 года адзначалася асаблівая актыўная дзейнасць партызанскіх атрадаў, якія дзейнічалі ў тыле маскоўцаў паміж Барысавам і Менскам. Змагаліся з імі войскі,што былі размешчаны ў Барысаве. Сам жа Барысаў у 1658 годзе два разы пераходзіў з рук у рукі, ад чаго моцна пацярпеў.

У студзені 1660 года паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітаю быў заключаны мір і асноўныя сілы нашага гаспадарства былі кінуты на вызваленне земляў, якія былі захоплены маскоўцамі. Яны пачалі губляць адзін горад за другім. Калі маскоўцы зразумелі,што паражэнне непазбежна, пачалі вывозіць з нашых земляў усё каштоўнае: зброю, грошы, прадукты, а таксама кнігі, абразы і іншае. Адным з асноўных зборных пунктаў гэтых рэчаў быў прызначаны Барысаў.

У такім становішчы маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч жадаў хутчэйшага заключэння замірэння з Вялікім княствам. На перамовы, якія меркаваліся распачаць у Барысаве, на самым пачатку красавіка 1660 года прыехаў у наш горад маскоўскі князь Мікіта Іванавіч Адаеўскі са сваімі палепечнікамі. Сюды ж трошкі пазней прыехалі паслы запарожскага войска - нежынскі палкоўнік Васілій Залатарэнка і Хвёдар Кароба. Разам з імі прыбыло 53 казакі. Маскоўцы надавалі вялікую ўвагу украінскім прадстаўнікам. Адаеўскаму паступіла ўказанне, каб для іх у Барысаве былі выдзелены добрыя дамы і ўтвораны адпаведныя ўмовы для жыцця.

*(Працяг будзе)*

**М.Мацельскі**

## ГРОШЫ

Са словам «Грошы» шмат у каго ўзнікаюць думкі аб нашым жыцці і яго матэрыяльных праблемах. Шмат хто думае аб тым, дзе іх знайсці і пракарміць сваю сям'ю. Але са словам «Грошы» ў той самы час шмат у каго ўзнікае ўяўленне аб меладычнай, добра аранжыраванай музыцы і аб адукаваных у музычным плане (і не толькі ў ім) музыкантаў з аднайменнага барысаўскага гурта.

Гурт «Грошы» быў створаны ў жніўні 1998 года. У яго склад ўваходзяць: Жалязноў Ігар - вакал, тэксты, Маркаў Павел - сола-гітара, Ручэнькін Дзяніс - гітара, Бадзюк Руслан - бас-гітара, Гарбачоў Сяргей - ударныя. Першае выступленне гурта адбылося 23 ліпеня 1999 года ў парку культуры і адпачынку імя Горкага. Канцэрт насіў назву «Музыка летняга адпачынку».

Напрамак, у якім працуюць удзельнікі гурта «Грошы», - рок з выкарыстоўваннем розных стыляў - блюзу, джаз - року, ROK'N'ROLLa і г. д. І што самае галоўнае, «Грошы» робяць гэта вельмі якасна і сапраўды прафесійна. За кароткі час (1 год) яны сталі вядомы ўсім рокерам Барысава. Тэксты песень піша сам вакаліст І.Жалязноў, які ўсім вядомы па мянушцы Гоша. Музыку і аранжыроўку робяць усе музыканты разам. Іх песні кранаюць самыя разныя тэмы - праблемы нашага жыцця, наркаманію і іншыя.

Адразу ж пасля гаворкі з музыкантамі я зразумеў, што асноўным прынцыпам гурта «Грошы» з'яўляецца плённая праца і не хвіліны адпачынку, каб дасягнуць вяршынь майстэрства сваёй музыкі. Сёлета 5 красавіка «Грошы» з поспехам выступалі ў лепшым рок-клубе Мінска «Стар - клуб», дзе яны ігралі разам з вядомымі беларускімі музыкантамі - Г.Старыковым, «The Ravens», А.Крачэўскім і іншымі.

У планы гурта «Грошы» ўваходзіць запіс свайго матэрыялу на прафесійнай студыі, запіс кавер - версій песень DOORS.

Гурт «Грошы» чакае доўгі шлях на беларускай рок - сцэне, бо гэтыя хлопцы стварають вельмі прафесійную музыку.

**С.Жук**



## Наша гасцёўня

*Т.Каваленка атрымала філалагічную адукацыю, жыве ў Крупках і працуе захавальніцай мясцовага музея. Добрае веданне сусветнай літаратуры, своеасаблівае бачанне свету падштурхнулі Т.Каваленка пісаць свае вершы. Рэдакцыю газеты «ГБ» падкупілі характэрныя для паэткі рамантычная (такая рэдкая сёння), знарочыта народная манера пісьма, празрыстасць думкі і пачуцця (таксама такія каштоўныя на фоне паўсюдных сёння туману, размытасці, няпэўнасці).*

**Маё вяселле**

У сукенку з кветак грушавых ўбяруся,
Запрашу на вэлюм воблачкаў гурток.
Беленькаму бэзу нізка пакланюся:
«Падары мне, дрэўца, кветак на вянок!»
У крынічцы сіняй выпалашчу вочы.
Колер спелай нівы на касу вазьму.
Чаравічкі з зорак папрашу ў ночы
Месяц на пярсцёнак з неба я здыму.
Запяе салоўка песню за ракою.
Пабягу я ў поле роднае тады.
Абручуся, край мой родненькі, з табою.
Паклянуся ў каханні вечным назаўжды.
Як жа не любіць мне свой куточак родны,
Тут жа я ступала самы першы крок.
Тут рака дзяцінства - Бобр мой паўнаводны -
Дум маіх, натхнення кожнага выток.
Тут у зорках ночы. Днём чысцютка неба.
Пах чабору ў лесе ўводзіць ў забыццё.
А калі з крыніцы ты пап'еш, як трэба,
То натхнення хопіць на усё жыццё.
Дык спявайце птушкі,
Радуйцеся, людзі!
Хай каханне вас нікога не міне.
Хай заўсёды шчасце побач з намі будзе.
А яго тут хопіць і табе, і мне.

## Крок за крокам - да асобы

Наша газета ў адным з папярэдніх нумароў ужо вяла размову аб укараненні і развіцці ў навучальных установах Барысава міжнароднай адукацыйнай праграмы для дзяцей і бацькоў «Крок за крокам».

У сталічным выдавецтве «МЕТ» нядаўна выйшла вельмі карысная для педагогаў і бацькоў, якія працуюць па гэтай праграме, кніга пад назвай «Арганізацыя адукацыйнай праграмы, арыентаванай на дзіця». Яе аўтары - амерыканскія вучоныя Кірстэн А. Хэнсен, Раксан К. Кауфман і Кэйт Бэрк Уолш.

Кніга ўяўляе сабой кіраўніцтва для выхавацеляў, якое расказвае аб тым, як стварыць у групе адпаведнае асяроддзе на аснове арганізацыі цэнтраў дзейнасці, як прыцягнуць бацькоў да актыўнай выхаваўчай работы, як індывідуалізаваць працэс навучання з улікам інтарэсаў і запатрабаванняў кожнага дзіцяці.

Кніга складаецца з трох раздзелаў, кожны з якіх прапануе чытачу канкрэтныя, ясныя ідэі, якія датычацца рэалізацыі праграмы, арыентаванай на дзіця. Той праграмы, якая садзейнічае развіццю прынцыпаў дэмакратычных узаемаадносін членаў вучэбнай суполкі. Для зручнасці карыстальнікаў прыведзены ўзоры разнастайных друкаваных форм.

Прызначэнне гэтай кнігі было не ў тым, каб стаць пастулатам ці дэкларацыяй мэт, метадаў і норм развіцця дзяцей. У ёй дастаткова месца для напаўнення рэальнага працэсу выхавання характэрнымі асаблівасцямі, культурнымі традыцыямі і адукацыйнымі стандартамі сваёй краіны.

**А.Турко**

## Парады ад Наталлі

*Паважаныя чытачы рубрыкі «Парады ад Наталлі», я віншую вас з надыходам вясны. Вясна - гэта калі ўсё змяняецца да лепшага. І я таксама жадаю вам расквітнець, скінуць з сябе зімовую скаванасць, праблемы і разам з прыродай імкнуцца да лепшага. Таму ўсе рэцэпты вельмі незвычайныя. Калі вы не баіцеся эксперыментаваць, раю вам прыгатаваць наступныя стравы.*

**Закуска малдаўская**

Часнок і цыбулю ачышчаюць, прамываюць, мелка шынкуюць і змешваюць з тварагом ці брынзай, якая папярэдне праціралася праз сіта. Усю масу добра перамешваюць, па смаку дабаўляюць соль і перац.

На 1 цыбуліну - некалькі зубкоў часнаку, 100г. тварагу ці брынзы.

**Заліўное «Малеча»**

Вазьміце яйка, праз невялікую адтуліну выпусціце змесціва. У яечную шкарлупу ўліце моцнае мяснае жэле і пакладзіце кавалачак вяндліны (15г.), кавалачак лімона і 3-5 шт. марынаванага зялёнага гарошку. Пастаўце на халад. Калі жэле застыне, разбіце шкарлупу і пакладзіце на блюда, упрыгожце галінкамі зеляніны.

**Яйкі ў «гняздзе»**

Патаўчыце бульбу і пакладзіце яе ў змазаную тлушчам форму. Па ўсёй паверхні масы зрабіць ямкі і ўліце ў кожную з іх разбітае яйка. Запякайце ў духоўцы да поўнай гатоўнасці яек.

**З тварагу**

150г. свежага тварагу змяшайце ў невялікай колькасці малака да атрымання аднароднай масы. Соль па смаку. У гэтую масу можна дабавіць:
- 1-2 сталовыя лыжкі нацёртага сыру;
- адно крутое мелка пакрышанае яйка з пятрушкай.

Можна есці проста так ці намазваць на хлеб.

**Бульба Ганна (па-французску)**

Абабраную бульбу нарэзаць тонкімі кольцамі, нацерці іх соллю і перцам, змазаць маслам дно вялікай патэльні і ўкласці ў яе бульбу ў некалькі слаёў. На кожны слой пакласці крыху масла. Закрыць крышку і паставіць у загадзя нагрэтую духоўку на 30 хвілін. Пасля гэтага бульбу, якая за гэты час спячэцца, усю перавярнуць і паставіць на 5 хвілін у духоўку. Праявіце сваю фантазію і ўпрыгожце гэты пірог самі.



р.Стрый

①



① *На альпійскіх лугах (1600-1700 м.)*

② *Вышэйшая гара Украіны - Гаверла (2061 м.)*

③ *Возера Сіневір (вышыня каля 1000 м.) - адзін з найбольш вядомых турысцкіх аб`ектаў Украінскіх Карпат*

②



# Адчынім дзверы ў свет

*(Заканчэнне, пачатак у № 3 за 2000 год)*

Такім чынам, вы падрыхтавалі ровары, набралі групу, склалі маршрут. Прыблізна палову шляху да Карпат, якая пралягае па Беларусі, мэтазгодна зрабіць на электрычцы. Найбольш зручна выехаць з Барысава на Менск у 22-59. На гэтай электрычцы без перасадак даедзеце да Берасця. Там неабходна перасесці на дызель да Маларыты або Забалоцця і даехаць да станцыі Маларыта. Мяжу лепей пераехаць сваім ходам на пераходзе Олтуш - Пішча. Не забывайце, што Украіна - іншая дзяржава.У Беларусі з ёй бязвізавы рэжым. Але ў вас абавязкова павінен быць пашпарт, які б сведчыў аб вашым беларускім грамадзянстве. Колькасць прадуктаў, што можна вывесці з Беларусі, абмежавана. Так, тушонкі можна вывесці не больш за дзве бляшанкі на чалавека (дарэчы, тушонка, якую вы зможыце набыць там, значна горшай якасці за беларускую). Пасля перасячэння мяжы не варта спяшацца мяняць значную колькасць валюты ў бліжэйшых мястэчках. Далей абменны курс будзе больш выгадным.

Найбольш аптымальны маршрут пралягае праз Любомль, Уладзімір - Валынскі, Сокаль, Жоўкву (Несцераў), Львоў. Па гэтаму шляху нямала цікавых аб'ектаў. Так, у Жоўкве ўвесь гістарычны цэнтр з'яўляецца ахоўваемым помнікам. На агляд Львова неабходна адвесці цэлы дзень. Пра помнікі старажытнасці гэтага горада напісана нямала кніг. У Львове прасцей за ўсё набыць «двухкіламетровыя» карты патрэбных абласцей. Тут жа неабходна запасціся прадуктамі. У Львове іх можна набыць найбольш танна. Да таго ж трэба мець на ўвазе, што ў гарах кошты на асобныя прадукты могуць пераўзыходзіць іх за межамі гор у 2 - 3 разы. Пры жаданні можна сэканоміць дзень паходу і з Львова даехаць на электрычцы непасрэдна ў горы. Аднак перш чым прыняць такое рашэнне, памятайце, што кошт транспарту на Украіне ў некалькі разоў болей, чым на Беларусі.

Па гарах можна скласці мноства розных маршрутаў. Але, па-першае, не плануйце маршруты выключна па магістралях. Уражанні, што можна атрымаць у глухіх горных мясцінах далёка ад «цывілізацыі», проста непараўнальныя з тымі, якія чакаюць вас у «абжытых» мясцінах. Па-другое, ні ў якім разе не спрабуйце нідзе ў гарах скарачаць шлях, калі вы дакладна не ведаеце, што дарога ідзе да патрэбнага вам месца. У адваротным выпадку будзе згублена шмат часу, затрачаны вялікія намаганні, а бяспека групы можа быць пастаўлена пад пытанне. Па-трэцяе, неабходна ўважліва ставіцца да планавання месцаў начлегу. У асобных раёнах будуць сустракацца або схілы гор, дзе ўстаноўка палаткі немагчыма, або населеныя пункты, якія займаюць усю прастору далін. Калі вам усё ж давялося трапіць у такое становішча, без усялякіх апасенняў звяртайцеся да тамтэйшых жыхароў. Яны або пакажуць, дзе можна паставіць палаткі на сваёй зямлі, або прапануюць больш прыдатнае месца паблізу.

Калі вы жадаеце атрымаць у гарах найбольш моцныя ўражанні і не баіцеся цяжкасцей, уключыце ў свой маршрут пераход па хрыбтах гор 1500 - 1700 метраў паміж Лапуховым і Ясіняй. Альпійскія лугі, высакагорныя азёры і бязмежныя краявіды пры адсутнасці населеных пунктаў на многія кіламетры пакінуць у вас незабыўныя ўспаміны на ўсё жыццё. Але майце на ўвазе, што прырода там можа прыпаднесці вам не менш запамінальныя сюрпрызы ў выглядзе моцнага ветру, нізкай для лета тэмпературы пры пастаянных дажджах і, нават, снегу. Па гэтых прычынах не варта планаваць на альпійскіх лугах начлег. На гэтым пераходзе бывалі выпадкі, калі ў турыстаў зносіла ветрам палаткі.Моцныя ўражанні можна атрымаць і ад узыходжання на вышэйшую гару Украіны - Гаверлу (вышыня 2031 метр). Гэта не патрабуе спецыяльных навыкаў і прылад. Зрабіць узыходжанне, безумоўна, лепей без ровароў. Да таго ж трэба ўлічваць, што ўваход на Гаверлу платны, а на ёй і яе схілах забаронена станавіцца на ноч з палаткамі.

Зваротны шлях з Карпат можа быць здзейснены розным чынам. Калі вы адчуваеце сябе ўпэўнена і жадаеце атрымаць яшчэ болей уражанняў, едзьце праз Чарнаўцы на Хоцін і Камянец - Падольскі. Незвычайныя замкі і абарончыя сістэмы апошніх яшчэ доўга будуць стаяць перад вамі ў вашай памяці. Адтуль праз Чорткіў, Цярнопаль, Пачаеў, дзе знаходзіцца адна з чатырох праваслаўных лаўраў, Крамянец, Дубну, Луцк з іх шматлікімі помнікамі архітэктуры можна вярнуцца ў Берасце.

Другі цікавы маршрут з Карпат пралягае праз Бучач, Підгайцы, Алеська, Берасцечка, Луцк і далей на Берасце. Непаўторнасць архітэктуры малых гарадоў Галічыны і замкі так званай «залатой падковы Украіны» не пакінуць вас абыякавымі.З Берасця ў Барысаў мэтазгодна вярнуцца на электрычцы.

Адчыніце дзверы ў свет самі. За вас гэта ніхто не зробіць.

***Ю.Гурэвіч***

③





*Вадапад каля г.Сколе*



*Жоўква. Гэта адзін з нешматлікіх украінскіх гарадоў, цэнтр якога з`яўляецца помнікам гісторыі і культуры*

*Умацаванні Камянца-Падольскага (XIV-XVI ст.ст.)*



*Хоцінскі замак (XIII_XVIст.ст.)*



**Конкурс**



Фота І.Карамазава (зверху)

Фота Р.Казлоўскага (знізу)



# Вясна

*(Лірычная замалёўка)*

Кожная пара года па-свойму прывабная для чалавека. Калі мы задумаемся пра гэта, то ўспомнім і падарункі восені, і зімовыя лыжныя падарожжы, і летнюю рэчку з вудаю на золаку дня.

Але, безумоўна, вясна ў нашай свядомасці - пара абуджэння, пара абнаўлення жыцця. Толькі яе прыход прымушае нават песіміста паверыць у вечны сэнс нашага існавання на Зямлі.

Вясна кожны год прыходзіць па-рознаму. Бывае яшчэ ляжаць маразы, вакол гурбы снегу, а наступіўшы дзень ясна паказвае, што вясна ўжо пачалася. А здараецца, што на календары даўно ўжо красавік і снегу няма, а сапраўднага веснавога цяпла ўсё яшчэ не дачакацца. Ва ўсякім выпадку надыход вясны адчувае кожны, бо яна нават мае свой асаблівы пах. Людзі так і кажуць: « Вясной пахне!»

На рэчцы лёд хутка сплывае. А вось на азёрах можа ляжаць нават у траўні. Нават снег у лесе можа ляжаць доўга і суседнічаць з першымі вясновымі краскамі.

Сапраўднае ж цяпло звычайна наступае ў траўні. Нездарма ж людзі гэтак назвалі месяц, бо ўбачылі, што ў гэтую часіну звычайна адыходзяць маразы, пачынае расці трава і можна выганяць пасвіцца жывёлу.

Нехта можа сказаць, што не любіць зіму або восень. А вось вясна... Яна прымушае мацней кахаць нашы сэрцы і з радасцю назіраць вялікі і вечны працэс абнаўлення жыцця.

*У.Пучыла, 17 год.*




Малюнак Л.Гадуна

# Майце на ўвазе

Наведванне лазні карысна ў прафілактычных мэтах для загартоўвання арганізма, яго аднаўлення пасля фізічных і нервовых нагрузак, узмацнення імунітэту, трэніроўкі тэрмарэгуляцыі арганізма.

Наведванне лазні карысна ў лекавых мэтах найперш тым, хто схільны да прастудных захворванняў, хто мае хранічныя захворванні дыхальных шляхоў, у тым ліку і астму ў лёгкай форме. Лазня дапамагае пры лячэнні вегетатыўных растройстваў сардэчна - сасудзістай сістэмы, пры гіпатаніі і пачатковых стадыях гіпертаніі. Лазня спрыяе лячэнню пры хранічным рэўматызме, радыкуліце, хранічных захворваннях скуры, парушэнні абмену тлушчу, паліартрыце, цукровым дыябеце ў лёгкай форме, клімактэрычным сіндроме.

Наведванне лазні недапушчальна пры ўсіх відах вострых запаленчых захворваннях з павышэннем тэмпературы цела, пры эпілепсіі, анкалагічных захворваннях, ішэмічнай, гіпертанічнай хваробах, бранхіяльнай астме з частымі прыступамі.

# Крыжаванкі

Вашай увазе зноў прапануецца лічбавая крыжаванка. Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**13:** 2036899837349, 3561149485736, 5952018746108.
**12:** 356141938146, 652627943851.
**11:** 38824761671, 43657571652, 81456306647.
**8:** 14627031, 22978174, 43153721, 52261942, 58130453, 67347387, 73542628, 97235383.
**7:** 1358707, 1693285, 1653824, 1721079, 1942581, 4016243, 3561415, 6472787, 6912576, 7049344, 8356114.
**6:** 195945, 215980, 238437, 334534, 410937, 452385, 617436, 703587, 724581, 728413, 738794, 923758.
**5:** 15467, 17538, 12153, 10892, 18237, 33148, 37113, 37986, 40698, 45301, 46512, 46739, 49358, 61724, 67491, 70305, 72412, 81017, 80341, 98957.
**4:** 1081, 1417, 1780, 1919, 1898, 1944, 2716, 3971, 4049, 5624, 5646, 6352, 7399, 7654, 8571, 9874.
**3:** 143, 159, 212, 268, 285, 375, 514, 527, 532, 679, 995.
**2:** 55, 66.





Паважаныя чытачы. У крыжаванцы, што была прыведзена ў «Гоман Барысаўшчыны» № 3(12) па віне рэдакцыі была дапушчана памылка. Просім прабачэння ў сваіх чытачоў.
Адказ на крыжаванку мінулага нумара.

Крыжаванка складзена па матэрыялах гэтага нумара.

**Па гарызанталі:** 1 - вуліца ў Барысаве; 2 - вёска на Барысаўшчыне; 3 - тутэйшы гурт; 4 - рака, якая працякае праз Барысаў; 5 - тутэйшы паэт; 6 - рака каля Барысава; 7 - кінатэатр у Барысаве; 8 - вёска на Барысаўшчыне; 9 - вуліца ў Барысаве; 10 - рака; 11 - вуліца ў Барысаве.



# Ці ведаеце вы, што...

*На стану на канец 80-х - пачатак 90-х гадоў на Барысаўшчыне была:*

**шчыльнасць рабочай сілы** 21 чалавек на 1 км$^2$. Для параўнання - найменшая шчыльнасць на Беларусі была ў Жыткавіцкім раёне - 8 чалавек на 1 км$^2$, найбольшая ў Мінскім раёне - 68 чалавек на 1 км$^2$. Сярэдняя шчыльнасць рабочай сілы па Беларусі складала 24 чалавек на 1 км$^2$;

**насычанасць сельскімі населенымі пунктамі** - 110 на 1000 км$^2$. Найменшая шчыльнасць па Беларусі была ў Пінскім і Жыткавіцкім раёнах - па 40 населеных пунктаў на 1000 км$^2$, найбольшая - ў Глыбоцкім раёне - 280 населеных пунктаў на 1000 км$^2$. Сярэдняя насычанасць тэрыторыі населенымі пунктамі па Беларусі складала 120 населеных пунктаў на 1 км$^2$;

**сельскагаспадарчая асвоенасць зямлі** (працэнт ворнай зямлі) складала 24%. Найменшая асвоенасць па Беларусі была ў Жыткавіцкім раёне - 11%, найбольшая - ў Аршанскім раёне - 42%. Сярэдняя сельскагаспадарчая асвоенасць зямлі па Беларусі складала 30%.

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 2000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 23.00 24.04.2000 г.
Замова № 2583
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*